Андрэй Александровіч

# Падарунак дзеткам-малалеткам



Славу і Машу —
буду рады калі вашы дзеці
знойдуць тут штось для сябе
цікавае і карыснае

Анд. Александровіч

Мінск

*Андрэй Александровіч*

# ПАДАРУНАК ДЗЕТКАМ-МАЛАЛЕТКАМ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай і юнацкай літаратуры
Мінск 1960



## ДАШЫН КАРАНДАШЫК

Толькі возьме наша Даша
Карандашык у руку,
Як адразу карандашык
Намалюе на лістку:
І сасну, і дуб высокі,
І вярбу, і яварок,
І сароку-белабоку,
І грыбок-баравічок;
Намалюе — глянуць люба —
Матылькоў і пчолак рой;
А суніцы — хоць у кубак
Награбай сваёй рукой.

Вось які у нашай Дашы
Чарадзейны карандашык.



## НАШ ДЗЕНЬ

Люда,
Стась
І я — Мартын,
Мы раскажам вам аб тым,
Як жывём і дружым мы,
Як расцём мы дужымі,
Якія ў нас
паводзіны,
Ці добра час
праводзім мы.

Пачынаем дзень спачатку
Фізкультурнаю зарадкай.
Раз — налева,
Два — направа,

Крок наперад,
Крок назад.
Нават Стась маленькі жвава
Патрапляе з намі ўлад.
Ён стараецца, таму
І ўдаецца ўсё яму.

**Каб не быць слабым і хмурым,**
**Не цурайся фізкультуры!**



Эх, як весела бруіцца,
Льецца,
булькае
вадзіца.
Возьмем шчоткі — зубы тром
Беласнежным парашком.
З мылам мы пад кранам мыем
Рукі,
вушы,
твар
і шыю.

**Чыста мыцца — наша ўмова.**
**Той, хто чысты,— той здаровы!**



За сталом утрох сядзім.
Мы з ахвотаю ядзім.
Нам заўсёды ўсё па густу:
Каша, бульба ці капуста.
— Я не буду... не хачу я... —
Слоў такіх ты не пачуеш.

**За сталом у нас заўжды**
**Цішыня у час яды.**

Мы садоўніку старому
Пасабляем каля дому.
Сад у нас харошы:
На газонах
Мак чырвоны,
Ружы і гарошак.
Мы і дома пасабляем:
Я падлогу падмятаю,
Фартушок надзеўшы, Люда
Мые ў тазіку пасуду.

2. Зак 451

Стась сваю работу знае —
Ён вазоны палівае.

**Дзецям з працай трэба знацца,**
**Пасабляй бацькам у працы!**

Дом вялікі. На двары
Шмат гуляе дзетвары,—
Весела заўсёды.
Разам з імі, як сябры,
Мы гуляем на двары,
Водзім карагоды.

**Песня з намі неразлучна.**
**Падружыся з песняй гучнай!**



Кнігі мы не забываем,
Кнігі ўважліва чытаем.
Перад кнігаю раскрытай,
Хоць яшчэ не знае літар,
За сталом сядзіць і Стась.
Ён малюнкі ўслых чытае,
Без памылкі разбірае,
Дзе шчупак,
а дзе карась,
Дзе рабіна,
дзе лаза,
Дзе рагатая каза.

**Хочаш знаць усё і ўсіх —**
**Сябрам будзь цікавых кніг.**

Вечар блізіцца, якраз
І канчаецца расказ.
Абяцанне мы стрымалі,
Пра сябе вам расказалі.
А цяпер пачуць цікава
І пра вас,
пра вашы справы:
Гульні, дружбу і работу.
Спадзяёмся, вы з ахвотай
Нам, сябры, уважыце —
Пра сябе раскажаце.



## ПЕРШАГА МАЯ

Гэй, ад краю ў край спявай,
Сёння свята Першамай —
Дзень вясны і дружбы шчырай.

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!

На парад за радам рад
Крочыць наш дзіцячы сад.
Я іду з сястрычкай Ірай.

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!

Дзе ні глянем толькі мы —
Упрыгожаны дамы,
Зззяюць сонцам сцягі міру.

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!

Каляровыя шары
Пралятаюць угары,
Як за птахам птах у вырай.

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!

Льецца песня з краю ў край,
Мы святкуем Першамай —
Дзень вясны і дружбы шчырай.

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры!



## ЗМЕЙ

Змея Ніл рабіць умее,
Запускае ў неба змея.

Змей спакойна ў ясным небе,
У празрыстай сіняве,
То ляціць сабе, як лебедзь,
То, як парусніk, плыве.

Хвост ад сонейка іскрыцца,
Як маланка-бліскавіца.



Змею ветрык пасабляе
Аддаляцца ад зямлі,
Хлопчык нітку распускае,
Толькі знай сабе — рулі!

Змей ляціць па-над садамі,
Над высокімі дамамі.

Як ракета, ўвысь ляціць ён,
Набіраючы разгон,
Вокал сонейка ў блакіце
Падарожнічаў бы ён,

Але вось бяда — у Ніла
Болей ніткі не хапіла.



## ХАЙ КОЖНЫ ВЕДАЕ,
## ЯК ГАЛЯ АБЕДАЕ

Галя ў мамы на каленях.
Пачынаецца кармленне.
— Еш, дачушка,— мама просіць,
Лыжку з кашкаю падносіць.
— Не хачу! — крычыць малая,
Лыжку ручкай адхіляе.
Бабка стала ў ладкі пляскаць:
— Еш, галубка, калі ласка.
Дзед стары пачаў іграць
На губным гармоніку,
Стаў пад музыку скакаць
Кот на падаконніку;
На пярэдніх лапках Бобік,
Як у цырку, стойку робіць.
Шум і звон без перапынку:
— Еш, галубка!
— Еш, дзяўчынка!
Не нарадуецца мама:
Галя з'ела свой абед.
Рады з мамаю таксама
Бобік, коцік, бабка, дзед.
Замарыліся, прысталі —
Накармілі ўсё-ткі Галю.



## ПРА КАЧАК, ШЧУПАКА І МЯЧЫК ЯНУКА

Ішоў па мосціку Янук,
У рэчку мячык выпаў з рук.
— Патоне мячык! — крыкнуў хлопчык,
Ад страху аж заплюшчыў вочы.
Аднак дарэмны крык і плач:
На хвалях гушкаецца мяч.

Янук глядзіць туды, сюды —
Як мячык выручыць з бяды?
А тут ізноў бяда: на мячык
Напала трое шэрых качак.
І сталі мяч адна адной
На дзюбы кідаць над вадой.

З-пад хвалі вынырнуў шчупак
І носам ткнуў у мячык так,
Што мяч у неба ўзняўся свечкай,
Бліснуў ад сонейка над рэчкай
І на здзіўленне шчупаку
У рукі трапіў Януку.



## ДВОЙЧЫ ДВА—ЧАТЫРЫ

Двойку Борка зарабіў
За чыстапісанне:
Ён у кляксах утапіў
Словы ўсе дазвання.

Вершык вывучыць забыў
Пра лясную сойку
І за гэта зарабіў
Ён таксама двойку.

— Што ты ў школе атрымаў? —
Дзед пытае Борку.
Борка дзеду адказаў:
— Атрымаў чацвёрку.



## РЫБАК

За гарой, лясочкам
Сонейка заснула,
Да сябе дзянёчак
Ручкай прыгарнула.

Цёплы вечар. Свеціць
Серабрысты месяц.
Пад ялінай вецер
Нанач лёг у лесе.

Вуду ўскінуў хлопчык,
Як ружжо, на плечы.
Караценькай ночкай
Хораша ля рэчкі!

Рыхтаваўся дбала
Хлопчык на рыбалку.
Хлеба ўзяў і сала,
Ножык і запалкі.

3. Зак. 451

Каля рэчкі быстрай
Запаліў ён голле.
Нібы зоркі, іскры
Паляцелі ў поле.

Бульбу спёк і салца
З'еў ён з асалодай.
Многа на рыбалцы
Ўцехі і прыгодаў.

Вось заззяў і золак
Цёплай пазалотай.
Шустры і вясёлы
Хлопчык за работай.

Плоткі чарадою
Снеданне шукаюць
І кручок з ядою
На хаду хапаюць.

Эх, улоў шчаслівы,
Радуецца сэрца:
Рыбы, як на дзіва,
Поўнае вядзерца.

На плячо ўзяў вуду
І пайшоў дадому.
От жа ўдзячны будуць
Хлопчыку маломў!





## ПРАЦАВІТАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Як маленькую сяброўку,
Ляльку любіць Каця:
То расчэша ёй галоўку,
То памые плацце.

То пагушкае на ручках,
То пацешыць байкай —
Як у лесе у дрымучым
Заблудзіўся зайка.

Ляльцы ловіць матылёчка
Шапачкай сваёю,
Праз шнурочак-паясочак
Скача перад ёю.

Спаць паклаўшы паміж кветак
У цянёк духмяны,
Ёй з пясочку шмат катлетак
Напячэ румяных.

За турботамі, за працай
Так і дзень мінае,
А самой пазабаўляцца
Часу не хапае.





## СТАЛЯР

Кожны дзень заўжды майструю —
То габлюю,
То пілую.
Я сталярскую работу
Вельмі палюбіў.
Я для мамінага фота
Рамачку зрабіў.



## КАЛЫХАНКА

Ціха, кіска,
Ціха, братка,
У калысцы
Спіць дзіцятка.
Будзь жа добранькі, глядзі
Дзіцяня не разбудзі.

Коцік слухацца не хоча,
Скача ён з кутка ў куточак.

Ох ты, кіска,
Ох, паганы,
Скінуў міску
З кашкай маннай.
Галубкі лятуць, лятуць,
Кашку гэтую з'ядуць.

Баючыся кары цяжкай,
Коцік слёзы лье над кашкай.

Чуеш, кіска,
Ля калыскі
Ходзіць мышка-
Каратышка.
Не марудзь жа ані-ні,
Гэту мышку прагані.

Коцік часу не губляе,
Мышку ў норку заганяе.

Змогся кіска,
Прытаміўся,
Пад калыскай
Прымасціўся,
Хвост пад лапкі падгарнуў
І салодкім сном заснуў.

— Баю-баю...
Ціха ў хаце.
Захацела спаць і маці.





## ЯК ЦАЦКІ ДОМА ЗРАБІЦЬ САМОМУ

Я сягоння вам хачу
Расказаць пра сад дзіцячы,
Што там добрага пачуў,
Што цікавага пабачыў.

Кожны столік, як варштат.
Ля варштатаў — дзетак шмат;
Цацкі розныя удала
З самых простых матар'ялаў
Робяць дзеці самі
Ўласнымі рукамі.

Арэх
Да арэха,
І смех,
І пацеха —
Зрабілі жывот, галаву;
Каб вочкі маргалі,
Прышылі каралі —
І так змайстравалі
Саву.



Рада Клаўдзія Пятроўна,
Ну, а хто не будзе рад?
Сад дзіцячы, а ўсё роўна
Як сапраўдны камбінат.
Хто што хоча,
Хто што ўмее —
Выразае,
Лепіць,
Клеіць...



Я прысеў на табурэцік.
Да мяне падбеглі дзеці
І паказваюць як госцю
Цацкі розныя свае.



А дзяжурны, хлопчык Косця,
Тлумачэнні мне дае.

— Вось маленькія сінічкі,
Паглядзіце, як адна!
Ножкі зроблены з сярнічак,
А галоўкі з каштана.
Хто зрабіў іх, вам цікава?
Іх зрабілі Мая з Клавай.

А вось гэта — сыраежка,
З бульбы выразаў Алежка.

А вось гэта — праца Вовы,
Тут усё з кары сасновай:
Паляўнічы, і сабачка,
І падстрэленая качка.

А вось гэта — малпаняты,
Ната іх зрабіла з ваты.

Нам пра гэтых малпанят
Нават песню склаў Ігнат:
Выйшла з хаты
Малпа матка,
А за маткай —
Малпаняткі.
Просяць, моляць:
— Мама, мама,



Нас вазьмі з сабой таксама.
— Паглядзіце,— крыкнуў Толя,—
Што вісіць у нас пад столлю!
Гэта мы зрабіць змаглі
Спадарожніка зямлі.

— Ёсць яшчэ аўтамабілі!
— Ёсць і заяц-быстраход!
— А нядаўна мы зрабілі
Рэактыўны самалёт!..



Вось пачуў што і пабачыў
Я, зайшоўшы ў сад дзіцячы.
І падумаў:
Хто захоча,—
Ці дзяўчынка, ці то хлопчык,
Ці то ў горадзе сталічным,
Ці то ў вёсцы невялічкай,—
Кожны ўсюды цацак можа
Нарабіць сабе прыгожых.
Бо і дома,
Як вядома,
Можна іх рабіць самому.





## ХЛОПЧЫК І ПЕВЕНЬ

Сам сабе катлетку смажыў
І запэцкаўся у сажу.
Каб ніхто не стаў сварыцца,
Ён рашыў пайсці памыцца
І з вядзерцам за вадой
У другі пабег пакой.

Ку-ку-рэ-ку! Ку-ку-рэ-ку!
Вось і певень тут аднекуль.
Крадучыся, неўзаметку
Падляцеў, хапіў катлетку.
Дзюбаў, дзюбаў — аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў.

Хлопчык чысценькі ўваходзіць
І глядзіць: нашкодзіў злодзей.
Закрычаў, заплакаў нават...
Напужаўшыся расправы,
Певень крыллі распасцёр,
Праз акно уцёк на двор...

Маці выслухала сына
І сказала: — Малайчына!
Сам кухарыў, сам памыўся,
Сам і з пеўнем разлічыўся.
Годзе плакаць, вытры твар,
Мой маленькі гаспадар.





## СКАКУХА

Глянь на Рыту
На скакуху,
Колькі спрыту,
Колькі руху:
Скок ды скок
Цераз шнурок,
Толькі свішча вецярок!

А вяровачка-шнурочак
Ледзь прыкметнаю дугой
Па-пад ножкамі праскоча,
Праляціць над галавой.
Ажно банцік невялічкі,
Што заплецены ў касічкі,
Як блакітны
Матылёк,
Разам з Рытай
Скок ды скок!



## У ПАРКУ

Кожны дзень у парк мы ходзім,
Гульні розныя праводзім.
Там забаў цікавых шмат.
Там чакаюць нас качэлі,
Верхалазкі, каруселі.
Там фантан, як вадаспад,
Не сціхаючы бруіцца.
Сонца ў пырсках прамяніцца.
Гусі плаваюць, ныраюць,
Як спартсмены; ім яду
З моста жменямі кідаем
У празрыстую ваду.
Гусі з гогатам удзячным
Пачастунак ловяць смачны.



## У ЛЕТНІ ДЗЕНЬ

Два браты, Ігнат і Ціхан,
Каб сяброў сваіх здзівіць,
Згаварыліся паціху
Штось цікавае зрабіць.

Драцяную клетку ўзялі,
Пару слоікаў шкляных,
Выйшлі моўчкі і прапалі
За варотамі яны.

Як прыйшла дадому маці,
Дома хлопцаў не было.
І пайшла яна шукаць іх,
Дум усякіх шмат найшло.

Дзе не пойдзе — ўсё дарма:
Хлапчукоў нідзе няма.
Што за ліха,
Ўсё няўлад.
Дзе той Ціхан?
Дзе Ігнат?
Расказала маці Федзю,
Федзя доўга не чакаў;
Каб сабраць дзяцей-суседзяў,
У трубу трубіць пачаў.



На сігнал прыбеглі Юля,
Пеця, Каця, два Кузьмы:
— Не хвалюйцеся, матуля,
Адшукаем хлопцаў мы.

Хто куды, як следапыты,
Разышлася дзетвара.
Бегаў з імі Жук сярдзіты
Ад двара і да двара.



Скрозь шукалі і дарма:
Іх — няма, няма, няма.
Што за ліха,
Ўсё няўлад.
Дзе той Ціхан?
Дзе Ігнат?

Два Кузьмы трамвай спынялі,
Петрусёк спыняў аўто.
— Можа бачыў хто? — пыталі.
Не, не бачыў іх ніхто.

Маці ў слёзах, маці плача:
— Дзе яны, сынкі мае?
От складаная задача,
Паспрабуй рашы яе!

Дзе ж маглі падзецца дзеці?
Іх шукаючы цяпер,
Едзе на матацыклеце
Нават міліцыянер.

Скрозь кружылі і дарма:
Іх — няма, няма, няма.
Што за ліха,
Ўсё няўлад.
Дзе той Ціхан?
Дзе Ігнат?



Нечакана Жук імкліва
Павярнуў у сад густы,
На траву прылёг пад слівай,
Стаў дзівіцца на кусты.

Што такое? Прытаіўся,
Натапырыў вушы, ўстаў,
Хвост падняў, перакуліўся
І па-свойму знак падаў.

«Гаў-гаў-гаў!» — пачулі дзеці,
Чарадой пабеглі ў сад.
Жук вясёлы, ён прыкмеціў —
Тут і Ціхан і Ігнат.



Пракаціўся над кустамі
Зычны голас дзетвары:
— Вось дзе стрэліся мы з вамі!
— Як не сорамна, сябры!

— Цэлы дзень мы вас шукалі,
Гэткі быў перапалох!
Ціхан здзіўлены: — Не зналі,
Мы працуем тут удвох.

Мы жучкоў збіраем, мушак,
Ловім розных матылькоў.
Нават мы злавілі птушку
Каля бэзавых кустоў.

— Мы,— пачаў казаць Ігнацік,
Адступіўшы крышку ўбок,—
Мы рашылі ў нашай хаце
Свой зрабіць жывы куток.

— Свой жывы куток? Цікава.—
Дзеці бліжай падышлі

І з ахвотай пачалі
Разглядаць жучкоў, казявак
Белых, жоўтых і чарнявых.

Птушка з клеткі драцяной
Падала ім голас свой.
Не марудзячы ні трошкі,
Далі птушцы хлебнай крошкі.

Шалясціць ліства на веццях.
Вее вецер. Сонца свеціць.
Стала ціха.
Кожны рад.
Ёсць і Ціхан
І Ігнат.







## ЛЯСНАЯ БАЙКА

Вырас пад асінаю
Грыб
Архіп.
На дзіва ўсім
На ім
Прыгожы капялюш:
Ружовы,
Адмысловы
На ўсю лясную глуш.
Стаіць і задаецца
Грыб
Архіп.
Не можа наглядзецца
Край зялёны
На капялюш ягоны.

Шэпча мошка-басаножка:
— Ах, які грыбок харошы!

Крыллем плясне матылёк:
— Ах, які капелюшок!

Зайка скача, плешча ў лапкі:
— Я такой не бачыў шапкі!

Нават жаба выхваляе:
— Ква-ква-ква, ква-ква-ква,
Раз такую шапку мае,
Дык якая ж галава!..

Раптам вецер тут з'явіўся,
Грыб
Архіп
Закалаціўся;
Капялюш яго на дол
Пакаціўся колам.
І глядзяць усе наўкол:
Грыб
Архіп
Стаіць, як кол,
Голы, безгаловы...

Ператапталі ўсю траву,
Шукалі, звалі галаву.
І зразумелі, што дарма
Шукаць таго, чаго няма.





## КАЗКА ПРА ПАНА ЖЫВАГЛОТА

За марамі, там, дзе горы,
За гарамі, дзе азёры,
За азёрамі, пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
На той гары,
У дубовым гушчары,
Жыў спакойна цэлы век
Невядомы чалавек.

Жыў багатым жываглотам,
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары,
Абліваючыся потам,
Знемагалі за работай
Толькі птушкі і звяры.

Сам не сеяў, не араў,
Ледзь нагой перастyпаў,
А ўсяго яму ставала —
Хлеба, солі, круп і сала.

Свінні дзікія аралі,
Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў, нават козы
Дзёрлі лыка з вербалозаў,
А мядзведзь каля кустоў
З таго лыка лапці плёў.

Як засцеліць завіруха
Шлях-дарогу белым пухам,
Ці на захад, ці на ўсход
Сабіраецца ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.



Двор гудзе перапалохам:
Усцілаюць санкі мохам,
Кожны лётаў,
Ахаў,
Охаў —
Суматоха, суматоха...

Загудзеў мядзведзь у рог,
Што ласёў ужо запрог.
Гусі-лебедзі вароты
Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
Едзе,
Едзе
Пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
Едзе
На кірмаш!

Шлях-дарога ўецца змеем,
Пан сядзіць, і ў вус не дзьме ён.
Без канца, бесперастанку
Колькі сілы цягнуць санкі
Цераз пушчы, цераз горы,
Цераз рэкі і азёры,
Без дарогі, без шляхоў
Адзінаццаць пар ласёў.
Па баках бягуць ваўкі,
Як стральцы-вартаўнікі.

На рагах ласіных іней,
Пара ўецца хмарай сіняй,
Ручаямі льецца пот.
Зло ў ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся, жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ўміг перавярнулі,
І тарчма пракляты пан
Пакаціўся, як чурбан,
З горкі
Уніз,

Уніз,
Уніз...
Там і снегам замяло
Пана мёртвае чало.

Доўга бой кіпеў суровы
З воўчай панскаю аховай.
Пластам хціўцы палеглі —
Іх ласі перамаглі
І пайшлі без перашкоды
Ў лес,
На волю,
На свабоду!





## ПАВОДКА

Рэчка берат залівала
І навалай гнала шквал.
Грозным валам бушавала,
Свой спраўляла карнавал.

На бурлівую паводку
Паглядзець прыбег Сымон.
Стаў на крыгу, ўбачыў лодку,
Пакатацца ўздумаў ён.

Хвалі крыгу адкалолі,
Вір пад крыгай забурліў.
Лодку ўзяць Сымон не здолеў,
Так на крызе і паплыў.

Не сціхаў шалёны рокат,
Крыгу нёс водаварот.
Пралятаў непадалёку
Над ракою верталёт.

Бачыць лётчык — там унізе
Нехта шапкаю трасе,
Просіць помачы на крызе,
А вада яго нясе...

Апусціўся ніжай лётчык,
Кінуў шнур яму на лёд.
Абкруціўся шнурам хлопчык
І палез у верталёт.

Лётчык зноў падняўся ўгору,
І Сымон вясёлым стаў:
Першы раз свой родны горад
З верталёта разглядаў.

Быў палёт яго кароткім.
Але пройдзе многа год,—
Не забудзе ён паводкі,
Будзе помніць крыгаход.





## СПАКОЙНАЕ НОЧЫ

Засні, мой каханы,
Мой мілы сынок,
Падняўся туманам
За вокнамі змрок.
Раса на палянах,
Нахмурыўся гай.
Засні, паслухмяны,
Бай-баінькі-бай.

На золаку рана
Рассеецца змрок.
Бадзёрым, румяным
Ты ўстанеш, сынок...
Праменні на сцежках
Асушаць расу,
Вавёркі арэшкаў
Табе прынясуць.

З табой быць, сыночак,
Мне радасць адна.
Спакойнае ночы,
Салодкага сна.
Усе ўжо заснулі,
І ты засынай.
Лю-люсенькі-люлі,
Бай-баінькі-бай.





ЗМЕСТ

Дашын карандашык . . . . . . . . 3
Наш дзень . . . . . . . . . . . . . 4
Першага мая . . . . . . . . . . . 7
Змей . . . . . . . . . . . . . . . 9
Хай кожны ведае, як Галя абедае . . 10
Пра качак, шчупака і мячык Янука . 11
Двойчы два — чатыры . . . . . . . 12
Рыбак . . . . . . . . . . . . . . . 13
Працавітая дзяўчынка . . . . . . . 15
Сталяр . . . . . . . . . . . . . . 17
Калыханка . . . . . . . . . . . . 18
Як цацкі дома зрабіць самому . . . 20
Хлопчык і певень . . . . . . . . . 23
Скакуха . . . . . . . . . . . . . 25
У парку . . . . . . . . . . . . . 26
У летні дзень . . . . . . . . . . 27
Лясная байка . . . . . . . . . . . 31
Казка пра пана жываглота . . . . 33
Паводка . . . . . . . . . . . . . 37
Спакойнае ночы . . . . . . . . . . 39

На белорусском языке
Александрович Андрей Иванович
**Подарок деткам-малолеткам**
Государственное издательство БССР.
Минск, просп. Сталина, 105.
1960 г.

ДЛЯ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

Рэдактар *Ул. Шахавец.* Мастацкі рэдактар *В. Варыёнчык.*
Тэхнічны рэдактар *В. Новікава.* Карэктар *О. Лукашонак.*

Здадзена ў набор 7/X 1959 г. Падпісана да друку 6/II 1960 г. Фармат 84×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 2,5. Ум. друк. арк. 4,1. Уч. выд. арк. 2,61. Тыраж 58 000 экз. Зак. 451.
Цана 1 руб. 85 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск, Чырвоная, 23.

